ПУЛЬС

## Дзень зачыненых газет

19 верасня грамадскае аб'яднанне "Беларуская асацыяцыя журналістаў" плануе правесці "Дзень зачыненых газет" — акцыю салідарнасці з беларускімі журналістамі.

Акрамя прадстаўнікоў беларускай недзяржаўнай прэсы, у акцыі возьмуць удзел міжнародныя арганізацыі — "Article 19", украінскі Інстытут масавай інфармацыі, малдаўскі Незалежны цэнтр журналістыкі, расійскі Цэнтр экстрэмальнай журналістыкі і Саюз журналістаў Літвы.

У межах Дня запланавана ўручэнне беларускім журналістам прэміі імя Дзмітрыя Завадскага, заснаванай расійскім "1-м телеканалам". Акрамя таго, у фае канферэнц-залы гатэля "Беларусь" пройдзе выстава зачыненых газет, адбудзецца дэманстрацыя відэаматэрыялаў, прысвечаных працы беларускіх недзяржаўных СМІ.

## Адмова

Друкарня ў Рэчыцы скасавала дагавор на выпуск недзяржаўнай светлагорскай газеты "Регион-вести". Афіцыйная падстава адмовы ў друкаванні — "вялікая нагрузка" друкарскіх машын.

Рэальную прычыну адмовы галоўны рэдактар Мікалай Паседзька бачыць у тым, што апошнім часам яго газета надавала асаблівую ўвагу працы мясцовых улад. Акрамя гэтага, незалежная газета нядаўна павялічыла аб'ём і пачала выходзіць у двух колерах.

Як адзначае М.Паседзька, усе спробы дамовіцца з іншымі друкарнямі былі безвыніковымі. Жлобінскае прадпрыемства адмовілася супрацоўнічаць, матывавауўшы гэта недахопам тэхнічных магчымасцяў; у Бабруйску спасläліся на тое, што газета выходзіць не ў іх вобласці; дырэктар мазырскай друкарні ўвогуле ніяк не патлумачыў свайго рашэння. Нават светлагорская друкарня, паслугамі якой газета карысталася да нядаўняга часу, адказала адмовай. Цяпер рэдакцыя шукае магчымасці друкавацца ў Мінску.

**Аляксей ШЭІН.**

## Яшчэ два рэзідэнты

Свабодная эканамічная зона "Гродна-інвест" папоўнілася двума рэзідэнтамі. Як паведаміў БелаПАН начальнік аддзела інвестыцый і знешнеэканамічнай дзейнасці СЭЗ Аляксандр Паляшчук, рашэннем конкурснай камісіі ў гэтым статусе зарэгістраваны два замежных прадпрыемствы з польскім капіталам і статутным фондам звыш 3,6 мільёна долараў ЗША. Адно з іх — "БелГро-Плюс" — спецыялізуецца на выпуску офіснай мэблі, другое — "Тэразіт-Плюс" — на вырабе акон і дзвярэй з прымяненнем шклопакетаў, а таксама сталярных вырабаў.

**Віктар МАКАРЭВІЧ.**

## Асвячэнне касцёла

Урачыстае асвячэнне новага і пакуль адзінага ў горадзе касцёла адбылося ў Жодзіне. Абрад, у якім апрача мясцовых каталікоў бралі ўдзел іх госці-адзінаверцы з Мінска, Барысава, Оршы, іншых гарадоў Беларусі і суседняй Польшчы, правёў кіраўнік беларускіх каталікоў, кардынал Казімір Свёнтак.

**Алесь НІКАЛАЙЧАНКА.**

## Кінашок

Беларускі акцёр **Анатоль КОТ** атрымаў прыз "За лепшую мужчынскую ролю" на XII адкрытым фестывалі кіно краін СНД і Балтыі "Кінашок-2003", што завяршыўся ў Анапе.

У конкурснай праграме кінафестывалю, які праходзіў з 7 па 15 верасня, былі заяўленыя дзве беларускія карціны: "Анастасія Слуцкая" рэжысёра Юрыя Елхава і "Бальная сукенка" творчага тандэма Маргарыты Касымавай і Ірыны Волах. Анатоль Кот выканаў ролю князя Уладзіміра, які здрадзіў Анастасіі Слуцкай, у аднайменнай карціне.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Творы Масіма Гіёці ў Мінску

У Мінску, у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, адкрылася выстава скульптуры вядомага італьянскага мастака Масіма Гіёці "Парадак. Прастора. Рытм. 1983—2003".

Яго творы экспанаваліся больш як на 50 персанальных выставах у Італіі і за яе межамі. М.Гіёці з'яўляецца пераможцам нацыянальных конкурсаў і ўладальнікам шматлікіх прэмій. Скульптар выканаў шэраг заказаў для грамадскіх арганізацый і музеяў Італіі, Германіі, Расіі і Сан-Марына.

Выстава будзе працаваць да 15 кастрычніка.

**Марат ГАРАВЫ.**

ВОПЫТ

# Як у Віцебску пабудавалі дом за тры з паловай месяцы

"Заказчык, пра якога можна марыць", — так ацаніў генеральны дырэктар Віцебскага домабудаўнічага камбіната Анатоль Стрык вартасці кааператыва №257, які быў сфарміраваны сёлета па дамоўленасці з аблвыканкамам віцебскім абласным прафсаюзам недзяржаўных прадпрыемстваў "Садружнасць" разам з абласным саветам прамыславікоў і прадпрымальнікаў.

Пайшчыкі гэтага кааператыва не толькі загадзя і ў поўным аб'ёме ўнеслі пачатковую суму аплаты за жыллё, але і датэрмінова разлічыліся з падрадчыкамі па ўсіх сваіх абавязацельствах. Больш таго, члены кааператыва самі, без уціску, адмовіліся ад прыёмкі аддзелачных работ, бо пагадзіліся з тым, што ніхто не зробіць гэтага лепш, чым гаспадары кватэр.

Дом, нягледзячы на палепшаную планіроўку (па дзве лоджыі на кватэру) і дадатковае ўцяпленне (у вокнах — трайныя шыбы), аказаўся самым танным сярод кааператыўных дамоў: адзін квадратны метр жылплошчы абышоўся навасёлам не ў 500, як звычайна, а ў 400 тысяч рублёў, што адпавядае рыначнаму кошту "другаснага" жылля. Быццам бы і нязначная розніца, але калі памножыць яе на агульны метраж 56-ці кватэр, то "скідка" атрымліваецца ўнушальная.

Праграма будаўніцтва жылля ў горадзе правальваецца з года ў год не толькі з-за таго, што на гэта не хапае бюджэтных грошай і народ збяднеў, але і таму, што няма людзей, якія б адказна і зацікаўлена заняліся б арганізацыяй кааператыўнага будаўніцтва. Узяўшыся за стварэнне ЖБК-257, старшыня прафсаюза "Садружнасць" Алег Азараў вырашыў даказаць, што паскорыць кааператыўнае будаўніцтва жылля можна і без бюджэтных сродкаў. Алег Іванавіч ужо на першым сходзе пайшчыкаў паабяцаў ім, што аб'ект не будзе замарожаны, і ўсе, хто ўступіў у кааператыў, стануць навасёламі ў намечаны тэрмін.

Азараў стрымаў слова.

Праўда, будаўніцтва не ўвесь час ішло гладка. Даволі доўга справы на аб'екце ішлі марудна, але з надыходам лета ўсё змянілася: тэмп будоўлі рэзка ўзрос. У значнай ступені гэтаму спрыяла тое, што ў ЖБК-257 не было даўгоў перад падрадчыкам.

Ствараючы кааператыў, Азараў паклапаціўся аб тым, каб сярод пайшчыкаў было больш працаўнікоў тых прадпрыемстваў, якія могуць аказаць грашовую дапамогу сваім прадстаўнікам у кааператыве. Членаў ЖБК Азараў падбіраў, так бы мовіць, не на вуліцы, а на тых прадпрыемствах, дзе дастаткова абаротных сродкаў. Калі такіх сродкаў, да прыкладу, на год прыпадае 120 мільёнаў, то хіба ж цяжка выдзеліць з гэтай сумы 2—3 мільёны ў якасці беспрацэнтнага крэдыту рабочаму або спецыялісту, які мае патрэбу ў жыллі?

Зрабіць дом таннейшым за іншыя ўдалося не толькі за кошт паскоранага будаўніцтва, але і таму, што заказчык згадзіўся прыняць аб'ект без унутранай аддзелкі кватэр, з шэрагам іншых, хоць і не надта сур'ёзных, але недаробак. Шчаслівыя навасёлы, атрымаўшы ключы ад жаданых кватэр, нават не дужа абураліся тым, што спраўляць "улазіны" давялося пры адсутнасці электраэнергіі, газу і з нерухомым ліфтам. Члены кааператыва гатовы самі клеіць набытыя за свае грошы шпалеры, фарбаваць "сталярку" і тупаць пешшу на сёмы паверх. Усе яны ведаюць, што на іхнім месцы з асалодай аказаліся б 18 тысяч жыхароў Віцебска, якія лічацца ў чарзе на паляпшэнне жыллёвых умоў, бо маюць на гэта фармальнае права. Права — правам, але ж бясплатнае жыллё ў абласным цэнтры практычна не будуецца, а вырашыць жыллёвую праблему за кошт насельніцтва амаль што нерэальна. Сотні гараджан, якім прапануюць уступаць у жыллёвыя кааператывы, беручы для гэтага крэдыты або пазыку ў банку, адмаўляюцца ад такой прапановы.

Яно і зразумела. Калі ўзяць у "Беларусбанку" крэдыт на будаўніцтва жылля тэрмінам на 20 гадоў, то з улікам 10% гадавых сума крэдыту за гэты час павялічыцца ў 3 разы, і няшчасны даўжнік будзе сам-насам з бясконцым і непад'ёмным доўгам. Банк прапануе таксама і крэдыты ў замежнай валюце. Можна, да прыкладу, узяць на 10 гадоў 3 тысячы долараў. Аднак за гэтыя грошы сёння нават прыстойную аднапакаёўку не купіш, а ўзяты пад 12% гадавых крэдыт за 10 гадоў зробіць даўжніка жабраком, які знаходзіцца на "лічыльніку" ў банка.

Прапануючы людзям крэдыты пад такія бязглуздыя працэнты, банкі падрываюць кааператыўнае будаўніцтва і ствараюць перашкоду на шляху вырашэння жыллёвай праблемы. А яна можа вырашыцца толькі ў тым выпадку, калі банкі давядуць працэнтныя стаўкі па крэдытах да прымальных памераў, а не будуць займацца пагашэннем інфляцыі сваіх актываў за кошт няшчасных даўжнікоў.

Ёсць і яшчэ адно выйсце з тупіка "жыллёвага пытання". Трэба, каб стваральнікамі і "куратарамі" кааператываў былі ўмелыя і адказныя арганізатары. І яшчэ трэба, каб прадпрыемствы не стаялі ў баку ад жыллёвых патрэб сваіх працаўнікоў і не скупіліся на крэдыты і пазыкі для будаўніцтва або пакупкі кватэр.

Зразумела, што на дзяржаву ў гэтай справе спадзявацца няма чаго. Будаўнікі гэтай жа дзяржавай пастаўлены ў такія ўмовы, што не маюць магчымасці знізіць кошт узводзімага жылля. А кошт гэты дайшоў ужо да планкі, што пачатковы ўзнос у кааператыў за сціплую двухпакаёўку дасягае 3 тысяч долараў. Ці шмат у нас людзей, для якіх лёгка знайсці такія грошы?

Бясплатнае жыллё ў Віцебску не даюць нават інвалідам і хворым, якім асобная кватэра павінна прадастаўляцца па-за чаргой і абавязкова. Сёння ў асобнай чарзе на атрыманне льготнага жылля ў Віцебску стаяць 75 хворых на адкрытую форму туберкулёзу. Гэтыя людзі вымушаны жыць разам з дзецьмі і бацькамі, а некаторыя нават у інтэрнатах. Першы ўдзельнік надзвычайнай чаргі чакае кватэру з 1994 года!

Так, вопыт віцебскага кааператыва №257 варты пераймання. Толькі дзякуючы ініцыятыўнасці саміх забудоўшчыкаў можна вырашыць жыллёвую праблему. На дзяржаву ў наш час разлічваць не даводзіцца.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

# Истерия,
## или Каким образом белорусский правящий режим требует «места под солнцем»

**Анатолий ЛЕВКОВИЧ,
председатель Брестской областной организации Белорусской социал-демократической партии (Народная Грамада), кандидат философских наук**

Караул! НАТО у границ!
Обложили!
На границе — негры!
Польша стремится превратиться в региональную сверхдержаву!
Страны Балтии приводят свои вооруженные силы в соответствие со стандартами Атлантического блока!
Лучшие друзья Милошевич и Хусейн подвергнуты экзекуции!

Сколько тревоги в последних речах правителя нашей страны! Возможному агрессору "орел с куриными перьями" готовится дать отпор. Причем основная сила — не армия, а простой люд, который в партизанской борьбе будет наносить противнику самые ощутимые удары. По признанию самих военных, на успех они не рассчитывают. После их отхода одна "надежа" на народ. Его роль в возможной войне определяется концепцией "территориальной обороны", утвержденной в ноябре прошлого года Указом президента. Командовать "территориальными бойцами" будут председатели облисполкомов, оперативное управление будет осуществляться структурами КГБ. Задумка военных стратегов в том, что каждый мирный человек должен не щадя живота своего оборонять свой дом. Сейчас, если верить прессе, создание войск "территориальной обороны" идет полным ходом. "Вечно вчерашние" готовят Беларусь к "партизанке". Подобную придумку в недавнем прошлом мы наблюдали в Ираке, где братан нашего "несгибаемого" Саддам Хусейн готовил к жертвоприношению (конечно же, на алтарь свободы Ирака!) баасовские животы.

Нагнетать истерию, раздувать внешнюю угрозу скандальному руководителю нашей страны просто необходимо. Во-первых, чтобы хоть как-то удержать "пляснувшийся" рейтинг бесстрашного защитника нации и объединителя всего восточнославянского сообщества. Во-вторых, чтобы сплачивать народ вокруг несгибаемого вождя (смотрите, как взялся он за "государственную идеологию"!) и оправдывать полунищую жизнь острой потребой крепить щит родины. В-третьих, чтобы снова вместе с российскими великодержавниками и коммуно-патриотами обрушиться на В.Путина за его уступки Западу и потребовать кое-каких поблажек за то, что Беларусь ну прямо страстно желает быть западным форпостом России. В-четвертых, в общем, как всегда, если масла не хватает, то его отсутствие оправдывается необходимостью присутствия пушек.

Никак не хочет наш "многомудрый" понять, что мир сегодня уже иной. Если еще в недавнем прошлом мы наблюдали противоборство двух социально-экономических систем, то XXI век характеризуется рождением новой общечеловеческой цивилизации. Отсюда возрастает соперничество разных культурных цивилизаций и в первую очередь ислама и христианства. Террористические удары по нью-йоркским небоскребам обострили противоречие между этими цивилизациями и определили перелом в мировой геополитике. В новом тысячелетии перед новыми угрозами Европа и весь христианский мир должны и будут объединяться. Это хорошо понимают Д.Буш, В.Путин и многие европейские лидеры. Натовские стратеги и российские генералы всячески демонстрируют взаимную любовь и уважение, а лидеры этих стран — крепнущее стратегическое партнерство США, Евросоюза и России.

Уже не только Запад, но и Россия выступают за объединенную Европу. Например, премьер-министр Италии во время недавнего визита в Москву (Италия сегодня является председательствующей в Евросоюзе) вел переговоры с В. Путиным об упрощении визового режима и даже о перспективе безвизового сообщения. Подводя итоги переговоров в Кремле, С.Берлускони отметил, что главным приоритетом его деятельности как председательствующего в ЕС является вступление России в Евросоюз.

Таким образом, выбранный курс на единую Европу руководства России и ее президента ставит точку на трескотне нашего неутомимого вещателя про страшилки, исходящие от ЕС и НАТО.

Для нашего "дальнезоркого" объединение Европы оказалось совершенно большой неожиданностью. В интервью своим придворным комментаторам он растерянно исповедовался: "Знаете, неожиданно, наверное, для нас мир интенсивно развивается в новом направлении союзов и объединений. Даже 10 лет тому назад мы не могли бы представить, что Европа и другие регионы будут так интенсивно стремиться к союзам. ... Я лично не мог это представить." Вот так откровение! Откровение человека, считающего себя единственным и многомудрым политическим стратегом! О, святая простота! Вспомните, уже девять лет назад одним из самых популярных брендов оппозиции был лозунг: "Беларусь — в Европу!". Уж в каком таком месте надо было проторчать почти 10 лет, чтобы в упор не увидеть интеграционных процессов, происходящих в мире и в Европе. Тем более, что еще в 1995 году, на заре его головокружительного взлета, Беларусь получила предложение вступить в Европейский Союз вместе с Польшей и Прибалтикой. Однако "голововскруженный" не только не увидел объединительных процессов, но и не услышал того, что предложила Европа. Как в той песенке: "ничего не вижу, ничего не слышу..". Не спрашивая у народа, с которым он так любит "советоваться" по судьбоносным вопросам, отказался "отец родной" от этого предложения. И причиной тому была не слепота и глухота, а политический авантюризм. В то время, как вы помните, его меньше всего интересовало будущее Беларуси и ее народа. Вознесшись на самую верхотуру государственной власти, он думал только о своем месте на политическом олимпе и в состоянии эйфории властного опьянения думал только об этом.

Перспективы вырисовывались захватывающие. Планы накатывали грандиозные. Фантазии взыграли. Зачем ему чужая и чопорная своими демократическими институтами Европа, когда с востока маячат такие до боли родные и близкие звезды кремлевских башен. Там столько простора и возможностей порулить! Движение в Европу мешало его планам — подсидеть старика Ельцина и повторить историю своего шкловского земляка Лжедмитрия — стать вседержителем "всея Руси". Курс был взят на кремлевские башни, и целая страна стала заложницей политической авантюры шкловского звездочета.

Финиш очевиден. Не только 10-миллионный народ, но и сам звездочет оказался заложником своей авантюры. В Кремль въехал не он, а молодой и прагматичный вседержитель русского царства. Мечтатель остался на шкловском подворье. Страна потеряла 10 лет динамичного развития. Народ влачит полунищенское существование.

Поэтому и запел А.Г. сегодня иные ("старые-новые") песни. Для оппозиции старые, а для него новые.

С голоса оппозиции запел "многомудрый" о выгодном геополитическом положении Беларуси. О том, "что ни Россия, ни Европа не могут минуть Беларусь. Огромная, большая, богатая ресурсами территория Российской Федерации находится по одну сторону Беларуси. Высокотехнологичный Запад, который нуждается в этих ресурсах, находится по другую сторону от Беларуси. Повторюсь, — делает открытие "знаток" европейской политики, — как не крути-верти, все равно Беларусь участвует в перемещении труда, капитала, сырья... Европе и России без Беларуси не обойтись". Заговорил о суверенитете и независимости, о том, что Беларусь должна быть равной среди равных европейских стран. О том, что, "если граждане нашей страны готовы отстоять свой суверенитет, свою независимость, то мы ее отстоим. Я к этому готов как глава государства... Притом разными методами, вплоть до крайних мер. Мы требуем своего места под солнцем". Все правильно, простодушный ты наш, места под солнышком хочется и котенку, и утенку.

Все злободневно. Актуально. А куда денешься! В.Путин с А. Квасьневским налаживает прямые контакты, дружит с Америкой, Европой, совместно реализуя идею Соединенных Штатов Европы.

В свете этих процессов актуализируется вопрос отношений Республики Беларусь и Республики Польша. В конце июня, в связи с 100-летним юбилеем белорусской социал-демократии, в гостях у нас побывал генеральный секретарь Союза левых демократов Польши Марек Дыдух. Одна из главных тем, которую мы обсуждали с генсеком, — тема вступления Беларуси в Евросоюз. Польша как наша соседка готова играть активную роль в проведении принципов Евросоюза в отношении нашей страны, и если этот процесс начнет развиваться, готова к взаимовыгодному сотрудничеству.

По этим проблемам еще в мае в Люблине проходила международная конференция "Беларусь в Европе или за ее границами?", в работе которой принимал участие и автор. На конференции обсуждались исторические аспекты отношений между нашими странами, был проведен анализ современного состояния, проигрывались возможные сценарии будущего развития.

В новейшей истории отношений между нашими странами польская сторона выделяет три периода: 1989 — 1992 г., 1992 — 1995 г., 1996 — 2003 г.

С 1989 по 1992 год политика Польши в отношении к Беларуси определялась следующими главными факторами:

1. Географическим — мы соседи, которые имеют продолжительную общую границу;
2. Культурологическим — тесные исторические и культурные связи, наличие национальных меньшинств по обе стороны границы;
3. Экономическим — хозяйственный потенциал двух стран (к сожалению, недостаточно развит интеграционными связями);
4. Геополитическим — Республика Беларусь — важный транспортный коридор между Западом и Востоком;
5. Военно-стратегическим — Республика Беларусь имеет важное значение в рамках международной безопасности, что обусловлено ее связью с Российской Федерацией и другими странами СНГ в вопросах построения общей системы безопасности.

С 1992 по 1995 год происходило динамичное развитие отношений между нашими странами. Однако после референдума 1996 года, когда А.Г. сосредоточил в своих руках всю власть, произошло замораживание этих отношений. Это связано, в первую очередь, с внутренней ситуацией в Беларуси — отсутствием рыночных реформ, ликвидацией демократических принципов управления страной, нарушением прав человека, а также с односторонней политикой Лукашенко, сориентированной в основном на Россию. Польская сторона, по мнению ее экспертов, рассчитывала, что после окончания холодной войны и получения суверенитета официальный Минск будет развиваться параллельно официальному Киеву. Однако этого, к сожалению, не произошло. Участники конференции констатировали, что на высоком официальном уровне между нашими странами отношений нет, они развиваются только между некоторыми негосударственными организациями.

Впрочем, несмотря на все негативные факторы, Польша не присоединилась к политике изоляции Беларуси, которую предложил Евросоюз, хотя и поддерживает все требования последнего к руководству нашей страны. Более того, Польша требует более активной политики от Евросоюза в отношении Беларуси с целью ее демократизации.

Сегодня Польша в отношении к белорусскому руководству проводит политику "ожидания", которая будет продолжаться до тех пор, пока в Беларуси не начнутся реформы во всех сферах общественной жизни с учетом стандартов Евросоюза.

При обсуждении вопроса об отношении Беларуси и Евросоюза большинство участников дискуссии согласились, что другой альтернативы для динамичного развития нашей страны, как быть в Европе, нет. Беларуси предназначено интегрироваться в Европу, поскольку она всегда развивалась в векторе европейской культурной традиции. Мы связаны с ней географически, исторически и культурно.

Интеграции Беларуси в Европу способствует и то, что все демократические партии, общественные организации и большинство граждан нашей страны высказываются за единую Европу. Поэтому для Беларуси сегодня существует только один вопрос: как мы будем двигаться в Евросоюз.

Главное, что сегодня мешает этому процессу, — отсутствие политической воли белорусского руководства. При сегодняшнем политическом режиме интегрироваться в объединенную Европу шансов у Беларуси практически нет. Мы должны реформировать себя изнутри: провести обширные реформы, направленные на развитие и укрепление демократических институтов, на построение правового государства, рыночной экономики, открытого гражданского общества. Необходимо настойчиво проектировать и конструировать будущее своей страны и строить его. Ни в коем случае нельзя опускать руки.

Нам необходимо также преодолеть тот стереотип, что не все европейцы видят Беларусь в Европе. В этом смысле мы должны стать "святее Папы Римского", т.е. стать европейцами больше, чем сами европейцы. Короче говоря, если мы, белорусы, сами не пошевелимся, так и останемся стоять возле открытых дверей Евросоюза, а это значит окажемся на окраине европейской и мировой цивилизации, потеряем суверенитет и растворимся на необъятных просторах России.

Для Беларуси сегодня существует несколько путей вступления в Евросоюз. Наиболее перспективный: реформа национальной экономики ускоренными темпами (что, конечно, потребует реформы всех сторон общества) и вступление в Евросоюз как равный партнер. При отсутствии динамичных реформ просматривается иной сценарий: сироту не хотят впускать в европейский дом, но и отказать сироте неудобно. Однако ответ уже будет зависеть не столько от белорусов, сколько от чиновников из Брюсселя. Отказать Беларуси быть в общеевропейском доме, отлучить ее от Европы — значит взять на себя ответственность за судьбу почти 10-миллионного народа. К месту привести недавно высказанную Папой Римским мысль: "Давайте вспомним Люблинскую унию, которая сделала сильными ВКЛ и Речь Посполитую, уния общеевропейская сильными сделает всю Европу".

Обсуждался и третий путь вступления Беларуси в Европу — вместе с Россией. Однако это очень опасный путь. Может случиться так, что не будет кому вступать в европейский дом, поскольку на этом пути мы можем потерять свой суверенитет.

На конференции высказывалась мысль, что вступление в ЕС новых стран выгодно Варшаве. Сегодня центром Евросоюза является Германия, после вступления Беларуси, Украины это место займет Польша, со всеми вытекающими отсюда для нее выгодами.

Конечно, обсуждались и минусы вхождения в Евросоюз. Европа потребует поднять экологические стандарты, вырастут налоги и т.д., что скажется на социальной сфере.

Могут возникнуть и внешние трудности. Во-первых, после принятия 10 стран следующее расширение Евросоюза возможно только в отдаленной перспективе. Во-вторых, вступление новых стран — это нелегкий воз, и еще неизвестно, как это скажется в целом на экономике Европы. В-третьих, принятию могут противиться новые члены Евросоюза, чтобы не делиться преференциями, которые они будут получать в процессе адаптации к европейским стандартам жизни.

Таким образом, вступление Беларуси в европейский дом — процесс непростой и нелегкий, но возможный и необходимый. Для этого нужно консолидировать все демократические партии и движения, в целом все общество.

В последнее время с интересной и перспективной инициативой выступила Белорусская социал-демократическая партия (Народная Грамада). Наиболее организованная демократическая партия предложила создать коалицию за европейский путь в объединенную Европу, которая в условиях саботажа идеи единой Европы сегодняшним белорусским режимом взяла бы на себя задачу по присоединению Беларуси к Европейскому Союзу. Партия считает, "что 10-миллионный трудолюбивый, образованный, спокойный народ с европейской историей, народ, который понес наибольшие потери, спасая мир от фашизма, народ, который больше всех потерпел от чернобыльской катастрофы и несет на себе тяжесть последней в Европе диктатуры, имеет право, при условии возвращения страны к демократии, на индивидуальную программу ускоренного включения в ЕС".

С инициативой изменения Избирательного кодекса и проведения честных выборов выступило Всебелорусское общественное движение "За достойную жизнь", конечной целью которого является конституционная смена власти и демократизация общества.

Конечно, очень значима для вступления Беларуси в Евросоюз позиция России и Запада. Но в любом случае, и мы это хорошо понимаем, последнее слово остается за нами, за белорусским народом. Только вступление в Евросоюз дает реальную возможность удержать экономику и поднять благосостояние людей, открыть путь для динамичного развития нашей страны как равной среди равных европейских стран. Только благодаря вступлению в ЕС Беларусь получит шанс за короткое время превратиться в страну с достойным уровнем и качеством жизни.

ГОРКІ ЛЁС

## «Унук, няўжо на старасці я гэта заслужыла?..»

*Мая бабуля — 78-гадовая пенсіянерка, якая ў гады вайны была вывезена ў Германію. Яна перажыла там усе здзекі фашыстаў і не думала, што праз 58 гадоў пасля заканчэння вайны, на Радзіме не зможа за ўласныя грошы набыць кавалак каўбасы...*

Пенсія маёй бабулі складае прыкладна 80.000 беларускіх рублёў. Дзень атрымання пенсіі — сапраўднае, але крыху сумнае свята. Разлічыўшыся з усімі камунальнымі плацяжамі, бабуля ламае галаву над тым, як за тыя грошы, што засталіся, пражыць цэлы месяц. Для яе, як і для многіх беларускіх пенсіянераў, кожны рубель на рахунку. Пасля аплаты камунальных плацяжоў бабуля працягнула мне 800 рублёў і сказала: "Ідзі ў краму і купі 200 грамаў каўбасы".

Я накіраваўся ў "Авоську" — менавіта такую назву мае бліжэйшая ад бабулінага дома крама. Яна знаходзіцца па вуліцы Кузьмы Чорнага, 12 у Мінску. Трэба сказаць, што на паліцах "Авоські" — даволі багаты асартымент каўбасных вырабаў. Зыходзячы з фінансавых магчымасцяў, я выбраў каўбасу "Дамашнюю", кілаграм якой каштуе 3.900. Зрабіўшы простыя матэматычныя разлікі, атрымаў, што за 200 грамаў каўбасы я павінен заплаціць 780 рублёў.

Звяртаючыся да прадаўшчыцы **Наталлі Несцяровіч,** я папрасіў узважыць мне не больш як 200 грамаў каўбасы. Прадаўшчыца адрэзала кавалак і паклала яго на электронныя шалі. Кошт каўбасы перавысіў 800 рублёў. На мае тлумачэнні, што я не магу заплаціць за каўбасу, таму што яе вага перавышае пажаданую, спадарыня Несцяровіч катэгарычна адказала: "Я не буду нічога адразаць ад гэтага кавалка". Вось так! А яшчэ кажуць, што пакупнік заўсёды правы... Шчыра кажучы, хацелася б пачуць на гэты конт меркаванне кіраўніцтва "Авоські"...

Вярнуўшыся да бабулі ні з чым, я не змог знайсці аргумента, каб стрымаць яе слёзы, і нічога не мог адказаць на яе пытанне: "Унук, няўжо на старасці год я гэта заслужыла?"

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ОФИЦИАЛЬНО

## Маршрут №9 под контролем

Статья "Автобус "Нежелание", опубликованная в газете "Народная воля" 31.07.2003 года, рассмотрена в УП "Управление транспорта и связи Мингорисполкома".

Как показывает анализ данных изучения пассажиропотоков, запланированные на сегодняшний день размеры движения на автобусном маршруте №9 позволяют обеспечить перевозки пассажиров на уровне не ниже среднегородского, кроме отдельных сбойных ситуаций, вызванных поломками имеющегося в наличии подвижного состава. Городским предприятием автобусного транспорта "Минскпассажиравтотранс" принимаются дополнительные меры по обеспечению стабильности работы автобусов на маршруте №9, а также по контролю за работой подвижного состава на линии. Для стабилизации перевозок по маршруту №9 приняты дополнительные меры, связанные с установлением зависимости размера премиальной оплаты руководству транспортного предприятия, обслуживающего данный маршрут, от уровня выполнения на нем плановых показателей. Кроме того, с 01.09.2003 г. возобновлена работа автобусного маршрута №9Д "Серебрянка-9 — ст.м.Партизанская", что позволило увеличить интенсивность движения общественного транспорта по ул.Якубова.

Предлагаемое изменение трассы движения автобусного маршрута №8 по ул.Якубова управлением не планируется. Это повлечет за собой увеличение интервалов движения и времени поездки, что приведет к ухудшению перевозок основной части пассажиров. С целью компенсации указанных негативных последствий потребуется выделение на маршрут дополнительного количества подвижного состава, резерв которого отсутствует на предприятиях коммунального пассажирского транспорта.

С водительским составом, обслуживающим автобусный маршрут №9, проведен дополнительный инструктаж о неукоснительном выполнении своих должностных обязанностей в части посадки-высадки пассажиров на конечном остановочном пункте "Якубова". Соответствующими службами предприятия "Минскпассажиравтотранс" установлен контроль за выполнением водителями данного остановочного пункта.

К сожалению, существующая структура парка подвижного состава УП "Минскпассажиравтотранс" не позволяет в настоящее время произвести замену работающих на маршруте №9 автобусов марки "Икарус" на новые автобусы марки "МАЗ". Вместе с тем, по мере обновления производственной базы предприятия такая замена будет производиться.

**В.СОСНОВСКИЙ,
начальник УП "Управление транспорта и связи Мингорисполкома".**

ЛІЦЭЙ

## Схіляю галаву перад імі

Не можа разумова і маральна нармальны чалавек спакойна рэагаваць на дзікунства вакол адзінага і ўжо знішчанага беларускага ліцэя, што робіцца сярод белага дня ў двухмільённым горадзе, які прэтэндуе звацца сталіцай еўрапейскай краіны. Але я далёкі ад думкі назваць стойкасць абаронцаў апошняга агеньчыка беларушчыны бессэнсоўнай. Наадварот, разам з болем адчуваю і гордасць ад таго, што сёння ёсць у Беларусі дзеці, годныя звацца духоўнымі нашчадкамі паўстанцаў 1863 года, годныя стаць у гісторыі поруч з каліноўцамі, касцюшкаўцамі і іншымі слаўнымі сынамі і дочкамі Бацькаўшчыны.

Гісторыя, безумоўна, залатымі літарамі запіша — ужо запісала — імёны гэтых хлопчыкаў і дзяўчынак, іх бацькоў і настаўнікаў. У мяне расце сынок, і я спрабую ўявіць сябе на месцы бацькоў ліцэістаў і схіляю галаву перад імі і іх дзецьмі...

Ім давялося жыць у гэтым месцы і ў гэтым часе і рабіць няпросты выбар: альбо стаць на калені перад злом, як, на жаль, робяць многія, альбо застацца людзьмі і прыняць на сябе ўвесь шквал гвалту і мярзоты, што сёння правіць баль у навакольным жыцці. І яны зрабілі гэты выбар — дзеці, выкінутыя на вуліцу толькі за тое, што прагнуць вучыцца на роднай мове і быць людзьмі.

Калі такі годны выбар зробіць бальшыня, жыццё наша стане зусім іншым.

**З павагай да ўсіх сапраўдных людзей —**

**Сяржук ДЫЧОК,
жыхар г.Бярозаўка Лідскага раёна.**

